# НАПРАДВЕСНІ АДРАДЖЭННЯ

**25 сакавіка 1918 года на еўрапейскай карце, нягледзячы на віхуры і калатнечу імперыялістычнай вайны, дзвюх рэвалюцый і грамадзянскую вайну, на абсягах былой Расійскай імперыі пачала ўзнікаць новая славянская дзяржава — Беларуская Народная Рэспубліка.**

**Давайце ж пагартаем старонкі нашай напалову невядомай яшчэ гісторыі і ўспомнім тых, хто стаяў ля вытокаў БНР.**

Перш-наперш гэта Беларуская Сацыялістычная Грамада, першая беларуская палітычная партыя, якая згуртавала вакол сябе шырокія і прадстаўнічыя сілы насельніцтва тагачаснага «Северо-Западного края». Утварылася гэтая партыя ўзімку 1902—1903 гг. пад назваю Беларуская рэвалюцыйная грамада на аснове нацыянальна асветніцкіх студэнцкіх і вучнёўскіх гурткоў беларускай моладзі. Першы з'езд партыі адбыўся ў 1903 годзе, а другі — у канцы 1905 — пачатку 1906 г. З гэтага часу змянілася назва арганізацыі — яна стала называцца Беларускай Сацыялістычнай Грамадой. Да 1917 года гэта была адзіная палітычная партыя, што выказвала інтарэсы беларускага народа.

Партыя змагалася за справядлівае вырашэнне аграрнага і нацыянальнага пытання. У нацыянальным пытанні яе пазіцыя была такая: прадастаўленне Беларусі статуса аўтаноміі ў будучай Расійскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспубліцы. Партыя рабіла ўсё магчымае дзеля гэтага. Дзеячы БСГ Іван і Антон Луцкевічы, Аляксандр Уласаў, Цётка (А. Пашкевіч) заснавалі першыя легальныя беларускія газеты «Наша доля» і «Наша ніва», вакол якіх згуртавалася ўся свядомая Беларусь. Газета «Наша ніва» выхоўвала чытачоў, выступала за беларускую школу, тэатр. Дзеячы БСГ былі заснавальнікамі выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца» (С.-Пецярбург) і Беларускага выдавецкага таварыства (Вільня). Без газеты і гэтых выдавецтваў не паўстала б класічная беларуская літаратура (Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч, М. Гарэцкі, А. Гарун, З. Бядуля ды інш.), якая шмат зрабіла для нацыянальнага выхавання беларусаў.

Пасля частковай акупацыі Беларусі ў 1915 годзе немцамі частка лідэраў БСГ (браты Луцкевічы, В. Ластоўскі) заключылі ў Вільні пагадненне з адпаведнымі арганізацыямі палякаў, літоўцаў і яўрэяў з мэтай адраджэння Вялікага княства Літоўскага са сталіцай у Вільні.

Іван і Антон Луцкевічы выступалі за стварэнне федэратыўнай беларуска-літоўскай дзяржавы з дзвюма аўтаномнымі тэрыторыямі і соймам у Вільні. Сацыяліст Вацлаў Ластоўскі выказаўся за цалкам незалежную і непадзельную Беларусь. Такім чынам, упершыню пасля амаль 120-гадовай расійскай акупацыі паўстала ідэя адраджэння беларускай дзяржавы пад яе новай назвай — Беларусь.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года БСГ аднавіла сваю дзейнасць. У сакавіку 1917-га партыйная канферэнцыя Грамады выставіла патрабаванне аўтаноміі Беларусі ў складзе федэратыўнай Расійскай рэспублікі. Да сярэдзіны 1917 года Грамада налічвала каля 5 тысяч сяброў і прыхільнікаў. У ліпені 1917 года БСГ стала ініцыятарам склікання з'езда беларускіх арганізацый і партый і заняла кіруючае становішча ў Цэнтральнай радзе беларускіх арганізацый, а таксама ў Вялікай беларускай радзе.

У кастрычніку 1917 года БСГ налічвала 10 тысяч сяброў і была самай уплывовай беларускай палітычнай арганізацыяй. Яе заслугаю з'яўляецца скліканне Усебеларускага з'езда (снежань 1917 г.). З'езд адкрываў сацыяліст Сымон Рак-Міхайлоўскі. Хоць на з'ездзе і прагучаў заклік «Няхай жыве Беларуская Народная Рэспубліка!», дэлегаты выказаліся за а ў т а н о м і ю Беларусі ў складзе Расійскай федэрацыі.

Пасля разгону з'езда бальшавікамі была абрана Рада Усебеларускага з'езда, а 21 снежня — яе выканаўчы камітэт на чале з сябрам ЦК БСГ Язэпам Варонкам. У першай Устаўнай грамаце да народаў Беларусі, выдадзенай 21 (8) лютага 1918 года, выканком Рады абвясціў сябе часовай уладай на Беларусі, заклікаў як мага хутчэй склікаць Усебеларускі ўстаноўчы сойм на аснове агульнага выбарчага права.

Калі 18 лютага 1918 г. пачалося нямецкае наступленне, выканаўчы камітэт Рады Усебеларускага з'езда пачаў нарады. 20 лютага быў створаны першы беларускі ўрад — шматпартыйны Народны Сакратарыят на чале з Я. Варонкам. Ва ўрад увайшлі вядомыя беларускія сацыялісты Аркадзь Смоліч, Палута Бабунова, Лявон Заяц, Антон Аўсянік.

Пасля таго як немцы і бальшавікі заключылі Брэсцкі мір і падзялілі Беларусь, 9 сакавіка 1918 года выканком Рады Усебеларускага з'езда выдаў другую Устаўную грамату. Беларусь абвяшчалася Народнай Рэспублікай. Былі закладзены канстытуцыйныя асновы БНР, якія цалкам адпавядалі ідэалам сусветнай сацыял-дэмакратыі. Усеагульнае, роўнае, прамое і прапарцыянальнае выбарчае права, свабода слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; безумоўная свабода сумлення, недатыкальнасць асобы і памяшкання; нацыянальна-персанальная аўтаномія для народаў; роўнае права ўсіх моў народаў Беларусі. Скасоўвалася прыватная ўласнасць на зямлю, зямля перадавалася тым, хто на ёй працуе. Лясы, нетры, азёры перадаваліся ва ўласнасць БНР. Абвяшчаўся 8-гадзінны рабочы дзень.

Пасля прыняцця 2-й Устаўнай граматы Народны Сакратарыят звярнуўся да канцлера Германіі з просьбаю прызнаць БНР, але канцлер заяву Народнага Сакратарыята адхіліў, бо гэта азначала б «умяшанне ў велікарускія справы». Паводле Брэсцкага дагавора, Нямеччына абавязвалася не прызнаваць ніякіх новых дзяржаў на тэрыторыі былой Расійскай імперыі. Апроч таго, Беларусь разглядалася як залог пад кантрыбуцыю, якую бальшавікі абавязаліся выплаціць Германіі.

18 сакавіка Рада Усебеларускага з'езда была абвешчана Радаю БНР. У яе склад былі ўключаны прадстаўнікі Віленскай Беларускай Рады на чале з А. Луцкевічам.

Да таго часу віленскія беларусы прыйшлі да згоды, што Беларусь павінна быць незалежнай і непадзельнай дзяржавай. Прыехаўшы ў Менск, А Луцкевіч прапанаваў аб'явіць незалежнасць БНР. Язэп Варонка сказаў, што прапанову трэба абмеркаваць на пасяджэнні фракцыі БСГ, якая складала большасць у Радзе БНР. Пасля абмеркавання гэтага пытання на пасяджэнні фракцыі, дзе яно было вырашана станоўча, склікалі пасяджэнне Рады. Ад імя фракцыі з дакладам аб палітычным становішчы Беларусі выступіў А. Смоліч — таварыш (намеснік) старшыні ЦК БСГ.

Пасяджэнне Рады пачалося а 8-й гадзіне вечара 24 сакавіка і скончылася а 8-й раніцы 25 сакавіка 1918 года. Была прынята 3-я Устаўная грамата. У ёй пацвярджаліся правы і свабоды грамадзян, абвешчаныя Устаўнай граматай 9 сакавіка. У ёй гаварылася: «Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай».

Акт 25 сакавіка быў пратэстам супраць падзелу Беларусі паміж бальшавікамі і Нямеччынай. Але не толькі. Стала зразумела, што нельга больш спадзявацца на Расію: яна, сказана ў 3-й грамаце, прыдушыла Беларусь, яна, не пытаючы беларускага народа, укінула нашу краіну ў пажар вайны, якая дашчэнту зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Ярмо дзяржаўнай залежнасці скідвалася дзеля таго, каб самім вызначаць свой лёс.

Упершыню ўсе этнаграфічныя тэрыторыі Беларусі былі абвешчаны адзінай дзяржавай, дзе беларусы не павінны былі быць людзьмі другога гатунку без мовы, гісторыі і нацыянальнай годнасці.

Незалежнасць Беларусі прызналі некаторыя еўрапейскія дзяржавы: Чэхаславакія, Аўстрыя, Украіна, Фінляндыя, Польшча, Турцыя, Літва, Латвія, Эстонія, Арменія і Грузія. З некаторымі дзяржавамі былі ўстаноўлены дыпламатычныя адносіны і распачаты гандлёвыя кантакты. У Кіеве, напрыклад, была заснавана «Беларуская гандлёвая палата» і «Беларуска-Украінскае Таварыства Збліжэння». У красавіку 1918 года Народны Сакратарыят БНР зацвердзіў дзяржаўную пячатку рэспублікі з выявай «Пагоні». Таксама было пастаўлена пытанне аб адкрыцці ў Менску дзяржаўнага Беларускага універсітэта і Беларускай грамадска-навуковай калегіі для падрыхтоўкі кадраў для новага дзяржаўнага апарату. Былі неўзабаве адкрыты курсы беларусазнаўства, дзе займаліся акрамя беларусаў і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей.

Такім чынам, вясною 1918 года адбылася падзея, якая назаўжды застанецца ў памяці кожнага свядомага беларуса.

Пасля 25 сакавіка ніхто не мог сказаць, што няма беларусаў. Бальшавікі вымушаны былі аб'явіць БССР таму, што была БНР. І калі 25 жніўня 1991 г. Вярхоўны Савет БССР аб'явіў аб поўнай незалежнасці Беларусі, якая ў верасні таго ж года стала называцца Рэспублікай Беларусь, людзі, што сабраліся ў той жнівеньскі вечар на будучай плошчы Незалежнасці, пранікнёнымі, цёплымі словамі ўшанавалі памяць аб БНР і яе заснавальніках.

**Алег ТРУСАЎ,**
**народны дэпутат Беларусі, намеснік старшыні Цэнтральнай Рады Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады.**

**У РЭДАКЦЫЮ ПАСТУПІЎ ТАКСАМА ЗВАРОТ ВЫКАНКОМА ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ БСДГ ДА ГРАМАДЗЯН БЕЛАРУСІ —**

## адзначым дзень 25 Сакавіка

**У ім, у прыватнасці, гаворыцца:**

Акт 25 сакавіка паклаў пачатак барацьбы нашага народа за сваю дзяржаву, барацьбы працяглай, ахвярнай. Волю нашага народа да свабоды не маглі задушыць ні бальшавіцкія, ні польскія акупанты. Заўсёды на працягу больш чым 70 гадоў знаходзіліся людзі, якія мелі мужнасць змагацца за Беларусь, адстойваць правы нашага народа, яго мовы і культуры. Успомнім жаўнераў і партызан 1918—1920 гг., успомнім слуцкіх паўстанцаў, якія баранілі Беларусь пасля таго, як бальшавікі змовіліся з Пілсудскім аб падзеле нашай краіны, успомнім нашых партызан і падпольшчыкаў у Савецкай і Заходняй Беларусі, успомнім патрыётаў, якіх кідалі ў турмы і высылалі ўлады Польшчы, якіх расстрэльвалі бальшавікі і гітлераўцы, якіх пакідалі без працы і заносілі ў чорныя спісы.

Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце нашай краіны, абвяшчэнне незалежнасці Беларусі ў 1991 годзе — лагічнае завяршэнне гэтай барацьбы.

Заснавальнікі Беларускай Народнай Рэспублікі хацелі пабудаваць дэмакратычную і прававую дзяржаву, у якой былі б забяспечаны правы і свабоды чалавека, у якой усім народам жылося б добра.

Памятайма пра гэта цяпер, калі Беларусь стала паўнапраўным суб'ектам еўрапейскай і сусветнай супольнасці. Працавіты і таленавіты народ Беларусі можа і павінен жыць ва ўмовах дэмакратыі, матэрыяльнага дастатку.

Грамадзяне!

Віншуем вас са слаўнай датай 25 Сакавіка!

Заклікаем усіх, хто можа, вывесіць у гэты дзень бела-чырвона-белыя сцягі на дамах, балконах, лоджыях, на будынках прадпрыемстваў і ўстаноў.

Няхай наш сцяг сведчыць: мы помнім пра Акт 25 сакавіка 1918 года, мы помнім аб змаганнях за незалежнасць і дэмакратыю.

Жыве Беларусь!



**ВЫГАДА ЎЗАЕМНАЯ**

**Мінскае вытворчае аб'яднанне «Прамсувязь» вядомае як вытворца тэлефонных станцый малой і сярэдняй ёмістасці, а таксама іншай апаратуры сувязі. У мінулым годзе тут зрабілі, на першы погляд, нечаканы крок, стварыўшы з калгасам «Праўда» Стаўбцоўскага раёна сумеснае прадпрыемства — невялікі мясаперапрацоўчы камбінат «Зарэчча» з вытворчасцю да 2 тон прадукцыі ў змену.**

**Мінула ўсяго каля паўгода з моманту заключэння дагавора да выхаду першай партыі гатовай прадукцыі. Цяпер тут вырабляюць каля дзесяці відаў каўбас і іншых мясапрадуктаў, асноўным спажыўцом якіх з'яўляюцца работнікі аб'яднання. Частку, якая застаецца, калгас рэалізуе самастойна.**

**Узаемная выгада відавочная: завадчане атрымалі адчувальную прыбаўку да свайго такога небагатага сёння стала, а калгас — дадатковы прыбытак.**

**НА ЗДЫМКУ: вядучы тэхнолаг па вырабу каўбас Аляксандр ПАКРОЎСКІ.**

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

КАШТОЎНЫЯ ПАПЕРЫ

**Рубрыку вядзе Аляксандр БУРДА, брокер фірмы «Аліна»**

# Акцыі

З усёй разнастайнасці відаў каштоўных папер (акцыі, аблігацыі, вэксалі, ноты, іпатэкі, дэпазітныя сертыфікаты і г. д.) менавіта акцыі з'яўляюцца найбольш распаўсюджанымі і даступнымі для звычайнага грамадзяніна. Што ж такое акцыя?

Акцыя — гэта каштоўная папера, якая сведчыць аб унясенні ўкладу ва ўстаўны фонд акцыянернага таварыства.

Каб лепш зразумець сутнасць гэтага азначэння, уявім сабе наступную сітуацыю. Дапусцім, вы захацелі купіць вялікі універмаг і адкрыць прыватны гандаль. Ідэя добрая, ды толькі грошай у вас на гэтую справу не хапае. Тады вы, натуральна, вырашаеце пазычыць патрэбную суму. Але чалавек або прадпрыемства, якія даюць вам грошы, могуць папрасіць узяць іх у долю, г. зн. каб потым дзяліць з вамі прыбытак зыходзячы з укладзенай сумы і мець права ўдзельнічаць у сумесным кіраванні купленым універмагам. Калі такое пагадненне будзе юрыдычна аформлена — узнікне акцыянерная кампанія.

Такім чынам, вы ўкладваеце свае грошы ў агульны «кацёл» і атрымліваеце ўзамен акцыю, якая зацвярджае гэты факт.

Акцыі звычайна выпускаюцца без тэрміну абарачэння. Так, у амерыканскіх сем'ях да гэтага часу захоўваюцца, як сямейная каштоўнасць, акцыі кампаній, выпушчаныя яшчэ ў мінулым стагоддзі. Яны і цяпер каціруюцца (прадаюцца і купляюцца) на фондавых біржах і прыносяць уладальнікам стабільныя даходы — дывідэнды. Гэта, напрыклад, акцыі кампаніі АТТ (упершыню выпушчаны ў 1877 годзе), якімі валодаюць цяпер 2,6 мільёна чалавек, і кампаніі IBM (выпушчаны ў 20-х гадах) — буйнейшага вытворцы камп'ютэраў у свеце.

Акцыі бываюць **імянныя** (указваецца імя акцыянера) і на **прад'яўніка.** Часцей за ўсё выпускаюцца імянныя акцыі, каб кампанія магла ведаць усіх сваіх акцыянераў. Пры продажы імянных акцый імя новага ўладальніка рэгіструецца кампаніяй у спецыяльным журнале.

**Звычайная (або простая)** акцыя дае ўладальніку наступныя правы:

**1. Права ўдзелу ў кіраванні справамі кампаніі.** Гэта значыць, што акцыянер можа прымаць удзел у агульным сходзе акцыянераў, які праводзіцца звычайна раз у год і з'яўляецца вышэйшым органам кіравання кампаніяй. На сходзе вырашаюць самыя важныя пытанні: змяненне статута кампаніі, выбары дырэкцыі (праўлення) і, канешне, зацвярджэнне памеру дывідэндаў. Усё гэта вырашаецца большасцю галасоў, прычым адна акцыя — гэта адзін голас. Зразумела, што чым больш чалавек мае акцый, тым большы яго ўплыў на прыняцце рашэнняў.

**2. Права атрымання дывідэндаў.** Дывідэнды выплачваюцца, як правіла, праз месяц пасля зацвярджэння іх памеру агульным сходам. Выплата робіцца штогод або штоквартальна — па рашэнню сходу.

**3. Права продажу акцыі.** Калі справы кампаніі ідуць паспяхова і рэгулярна выплачваюцца вялікія дывідэнды, то многія людзі, якія не маюць яе акцый, вядома, захочуць іх купіць. Уладальнік жа акцыі мае магчымасць выгадна яе прадаць — па больш высокай цане. Купля-продаж акцый часта адбываецца праз спецыялістаў-пасрэднікаў (брокераў), якія працуюць на біржы каштоўных папер (фондавай біржы).

Апрача простых часта выпускаюцца **прывілеяваныя** акцыі. Яны адрозніваюцца тым, што не даюць права голасу на агульным сходзе. Затое па іх устаноўлены цвёрды памер дывідэнду, напрыклад 10 або 15 працэнтаў ад намінальнага кошту акцыі. І гэтыя дывідэнды выплачваюцца ў першую чаргу, незалежна ад вынікаў дзейнасці кампаніі. Канешне, прывілеяваныя акцыі таксама можна купіць або прадаць.

Такім чынам, прывілеяваныя акцыі больш надзейныя: што б ні здарылася, іх уладальнік атрымае гарантаваны дывідэнд. Але яны менш даходныя: нават пры паспяховай дзейнасці кампаніі нельга атрымаць больш за свае 10 або 15 працэнтаў.

А па простых акцыях можна атрымаць і 50 працэнтаў, і больш. Праўда, можна і нічога не атрымаць — усё залежыць ад таго, як працуе кампанія. Карацей, тут больш рызыкі, затое можа быць большым і магчымы даход. Што ж, хто не рызыкуе, той не выйграе.

Аб іншых асаблівасцях акцый і іх абарачэнні ў нашай дзяржаве будзе расказана ў наступны раз.

**Тэл. у Мінску 64-16-30.**

# НАРОД, ІНТЭЛІГЕНЦЫЯ І НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ—

***тэма гутаркі нашага карэспандэнта з пісьменнікам Барысам САЧАНКАМ***

*— Барыс Іванавіч, у маім стале даўно ляжыць пісьмо ў «Звязду», якое не спісваю ў архіў. Хацелася абмеркаваць яго з Вамі. Напісала яго Ваша зямлячка з Гомельшчыны, з вёскі Астравы Лоеўскага раёна—Юлія Аляксандраўна Гаўрылюк-Саўчанка. Падобныя не толькі Вашыя прозвішчы, але і некаторыя жыццёвыя старонкі. Дык вось, у сувязі з прыняццем Вярхоўным Саветам беларускіх дзяржаўных сімвалаў Юлія Аляксандраўна напісала:*

*«Слёзы заліваюць твар. Ускалыхнулася ўсё маё жыццё...*

*Я малою была вывезена ў Германію. У 13 гадоў даіла ў гаспадара 13 кароў тры разы на дзень і працавала ў полі разам з усімі дарослымі. Нам выдалі спецыяльныя пінжакі, якія мы павінны былі насіць, таму што там былі прымацаваны гербы нашых рэспублік, якія прыняты зараз. Тады немцы адразу пазнавалі, хто рускі, хто беларус, хто паляк, хто ўкраінец. Горш за ўсіх жылося рускім, хаця і нам даставалася. Гаспадарская курыца недзе схавалася і несла яйкі не там, дзе ёй прызначалася. Дык зяць гаспадара ледзь не забіў мяне. А потым знайшлася і курыца, і яйкі...*

*Гэты боль быў прытупіўся, мы сталі жыць лепш, звыкліся з думкай, што хоць не дарэмна перажылі такія пакуты.*

*І вось я атрымала свабоду. Я цяпер не ведаю нават, хто я сама. Да сённяшняга дня я лічыла сябе беларускай, хоць з 1956 года жыла ў Казахстане. Там я нарадзіла пяцёра дзяцей — дзвюх дачок і трох сыноў. Муж загінуў там у 1965 годзе. Чацвёра дзяцей жывуць там, адна дачка жыве ў Беларусі разам з мужам-украінцам. Я ж прапісана ў Казахстане, але вось мінула ўжо дзесяць гадоў, як, выйшаўшы на пенсію, працавала ў родным калгасе даяркай. Каб хоць неяк аддаць доўг сваёй вёсцы. Цяпер паўстала пытанне: дык хто ж я? Да гэтага часу я ганарылася тым, што я грамадзянка СССР. Але я была беларускай, дзе б я ні жыла, у БССР, у КазССР, у РСФСР, у УССР. У поездзе мы былі ўсе аднолькавыя, ніхто ніколі не пытаўся ні пашпарта, ні грамадзянства. У самалёце я ляцела ў любы горад. А што будзе зараз? Мне засталося няпоўга жыць. Але як жа мае дзеці? Яны ж павыходзілі замуж, пажаніліся на розных нацыях...».*

Як бы вы пракаменціравалі гэта пісьмо?

— Тое, пра што піша аўтар ліста, мне вельмі блізка і зразумела. У гады вайны ў Нямеччыну было вывезена з Беларусі каля 400 тысяч чалавек. Іх долю раздзяліў і я з бацькамі.

Але хацеў бы адразу паправіць Юлію Аляксандраўну: «знакі адрознення» ў беларусаў былі зусім іншыя. Ніякага бела-чырвона-белага сцяга, ніякай «Пагоні». Па-першае, былі шматкі тканіны з надпісам «OST» (гэта для ўсіх былых савецкіх грамадзян). Па-другое, і беларусы, і ўкраінцы, і рускія адрозніваліся яшчэ «эмблемамі». На тым знаку, што насілі, як беларусы, мае бацькі і які насіў я таксама, быў колас, унізе — шасцярня, і аблямавана гэта ўсё нечым накшталт хамута, расквечанага расцвіўшымі сланечнікамі...

Так, «Пагоня» і бела-чырвона-белы сцяг выкарыстоўваліся ў час вайны калабарантамі. Але тое ж здарылася з нацыянальнымі сімваламі і ў Францыі, Венгрыі, Балгарыі... І ўсё ж народы не выракліся іх.

Не трэба абвінавачваць наш Вярхоўны Савет у нейкім святатацтве. Я лічу яго рашэнне і гістарычна, і маральна справядлівым. Страшэнная несправядлівасць, на мой погляд, чынілася ў іншым. Архітэктары таго савецкага грамадства, якое «дабудоўвалася» пасля вайны, ставілі свае антыгуманныя, антычалавечыя эксперыменты над пакаленнямі людзей. Калі яшчэ можна зразумець, чаму з нас, савецкіх, здзекаваліся ў Германіі, то як зразумець тыя здзекі, якія нас сустрэлі на Радзіме? За тое, што мы былі ў нямецкім палоне, нас хацелі выслаць у Сібір, не давалі вучыцца ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах.

Учытваюся ў пакутлівыя разважанні маёй зямлячкі — яе лёс таксама падвергнуты «эксперыменту». Паводле яго задумы, беларусы, скажам, накіроўваліся ў Сібір, Казахстан, а адтуль людзі ехалі сюды. Праводзілася злачынная палітыка перамешвання, зліцця нацый, фарміраваўся так званы «савецкі народ». Прапаноўвалася нават выдаваць новыя пашпарты без указання нацыянальнасці — ён проста «савецкі чалавек». Па таму самаму прынцыпу развівалася прамысловасць: у Беларусі, дзе няма сваёй руды, вельмі мала нафты, узвялі гіганты машынабудавання і нафтаперапрацоўкі. Па гэтай жа прычыне ўхваляліся змешаныя шлюбы. Усё рабілася для таго, каб была адна дзяржава, адна мова, адна нацыя.

*— Ёсць такія меркаванні, што і ў новых пашпартах грамадзян Рэспублікі Беларусь не патрэбна ўказанне нацыянальнасці.*

— Я таксама пра гэта чуў, ёсць такія прапановы. На мой погляд, недальнабачныя. Бо нацыя — гэта ўсё-такі нацыя, і кожны павінен адчуваць, адкуль ён родам, кім былі яго дзяды, бацькі... Справа іншая, калі чалавек не хоча належаць да пэўнай нацыянальнасці, хоча замяніць яе па нейкіх прычынах. Трэба, лічу, даць такое права. Але прымусова пазбаўляць чалавека нацыянальнасці я б нікому не дазволіў. Гэта спроба таго ж дыктату зверху, якім была прымусовая калектывізацыя, якім цяпер з'яўляецца прымусовая прыватызацыя. Трэба слухаць людзей, іх волю. І цярпенне мець. А мы кудысьці заўсёды спяшаемся...

*— Але Вы лепш за іншых ведаеце, што паняцце і пачуццё патрыятызму ў многіх нашых суграмадзян фарміравалася на «савецкай заквасцы». Гэта пацвярджае і пісьмо Вашай зямлячкі. Народ і інтэлігенцыя з яе нацыянальнай ідэяй існуюць яшчэ даволі адасоблена.*

— Становішча з нацыянальным усведамленнем у нас трагічнае. Як мне бачыцца, гэта, безумоўна, вынік таго, што «праслойка» свядомай нацыянальнай інтэлігенцыі ў нас спецыяльна, мэтанакіравана знішчалася.

Возьмем лёс новай беларускай інтэлігенцыі, якая пачала складвацца ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя. Гэта былі людзі, якія ўсведамлялі сваю адказнасць перад народам, браліся вывесці яго на ўзровень іншых народаў Еўропы і свету, стварыць сваю дзяржаўнасць... Такой гістарычнай спробай было ўтварэнне БНР — Беларускай Народнай Рэспублікі. Неўзабаве, у процівагу ёй, з'явілася БССР. Новы рэжым, пачынаючы з 30-х гадоў, пачаў планамернае знішчэнне нацыянальнай інтэлігенцыі — спярша прыхільнікаў БНР, а потым і Беларусі савецкай. Да вайны практычна іх засталася адна жменька...

*— У Доме літаратара, дзе мы з Вамі гутарым, устаноўлена мемарыяльная дошка з імёнамі пісьменнікаў Беларусі, якія загінулі на Айчыннай вайне. Недзе каля трыццаці чалавек... Спіс дадзеных ахвяр куды большы, а ніякай памяткі нідзе няма.*

— Ведаеце, мы некалькі разоў ставілі ў Саюзе пісьменнікаў гэта пытанне. Па тых спісах, што ёсць у мяне, былі рэпрэсіраваны 238 нашых пісьменнікаў, з іх дажылі да смерці Сталіна і выйшлі з лагераў зусім нямногія — каля дваццаці.

Але як тут аддаць справядлівую даніну памяці, калі абставіны павязалі людзей сеткаю ўзаемных даносаў, калі каты ў рэшце рэшт падзялілі лёс сваіх нявінных ахвяр? Гэта ж пачні складаць спіс, і трэба пачынаць ведаеце з каго?

*— З Бэндэ?..*

— Не, з А. Александровіча, М. Аляхновіча...

Дык вось, пра вынікі. Прыгадваюцца словы Горкага, сказаныя ім у «Нясвоечасовых думках» пра рускую інтэлігенцыю: вынішчы яе, і Расія апынецца ў цемры. Гэтак здарылася і з намі: народ апынуўся ў цемры, без духоўнага лідэра, таго, хто адкрыў бы вочы...

*— Барыс Іванавіч, як мне ўяўляецца, рух ТБМ якраз меў на мэце аб'яднаць сённяшнюю інтэлігенцыю і народ адной ідэяй, адным лозунгам Адраджэння. Аднак, што адбываецца з гэтым рухам? Ці не праглядаецца ў ім нейкая «самадастатковасць»: яго накірунак супадае цяпер з дзяржаўнай палітыкай, і, значыць, ТБМ існуе сам для сябе?*

— Рух ТБМ узнік з вялікай патрэбы: вярнуць беларускую мову на Беларусь.

Спачатку ў ім было шмат энтузіязму, таму што да яго прымкнуліся многія прыхільнікі БНФ. Фронт тады не прызнаваўся ўладамі, а Таварыства беларускай мовы было як бы легальнай формай барацьбы за тыя ж ідэалы. І справа беларусізацыі зрушылася якраз у сталіцы. Ад бурных сходаў, ад агітацыі па класах і кватэрах мы прыйшлі да закона аб дзяржаўнасці мовы...

Што цяпер? Цяпер палітыку беларусізацыі сталі паслядоўна праводзіць і Міністэрства асветы, і Міністэрства культуры. Падключыліся і іншыя. З'явіліся беларускамоўныя ўказальнікі на дарогах, назвы станцый, шыльды на магазінах, афішы кінатэатраў. Многае змянілася. Але парупіцца ТБМ яшчэ ёсць пра што. Аднаўляецца беларускае справаводства. Патрабуе ўдакладнення правапіс, лексічная аснова мовы. Яшчэ не выпраўлены хібы ў перадачы нашай тапанімікі, некаторых іншамоўных слоў. Вялікія праблемы ўзніклі ў беларускім кнігадрукаванні, выданні часопісаў і газет.

Цяпер жа мы актыўна ўзнаўляем і ўсталёўваем сувязі з беларусамі ва ўсім свеце. Як адзін з сакратароў рэспубліканскай рады ТБМ я, дарэчы, і адказваю за сувязі з суайчыннікамі за мяжой. Са свайго боку мы імкнёмся выявіць беларускія асяродкі ўсюды, дзе яны ёсць, дапамагчы ім не парываць з роднай мовай, культурай.

*— Калі ўжо мы дайшлі да Вашай любімай тэмы — эміграцыі, хачу вярнуцца да цытаванай неяк Вамі думкі: усе вялікія духоўныя набыткі, зрухі прыходзілі на Беларусь якраз з эміграцыі. Вось і Скарына надрукаваў сваю першую Біблію ў Празе... А дзе цяпер, на Вашу думку, рэальная глеба нацыянальнага адраджэння —тут ці там, на эміграцыі?*

— Сапраўды, былі гады, калі беларуская кніга прыходзіла на Беларусь з эміграцыі. Калі пры Скарыне мы проста не мелі сваёй матэрыяльнай базы, то, скажам, кнігі Багушэвіча і Цёткі проста не маглі выдавацца ў Беларусі на беларускай мове, забароненай царом. Пазней мы не маглі выдаваць творы рэпрэсіраваных пісьменнікаў — іх друкавала эміграцыя. І мы ёй павінны быць удзячны, таму што многае з выдадзенага за мяжою толькі таму і захавалася.

Увогуле, я лічу, што аддаленасць паміж намі і эміграцыяй была ўмоўнай: як аказалася, мы і яны, нярэдка паралельна, працавалі над агульнымі тэмамі. Але я не падзяляю тых думак, якія выказваюць некаторыя беларускія пісьменнікі, быццам толькі эміграцыя верне нам беларускі дух, беларускую мову.

Я ўсё-такі займаюся эміграцыяй і бачу: яна сёння вельмі малалікая. А калі гаварыць пра творчую і навуковую інтэлігенцыю — то з яе засталіся лічаныя асобы. Той жа Данчык, напрыклад, будучы тут, у Мінску, на пытанне пра перспектывы эміграцыі, прывёў англійскую прымаўку: «Вялікая галава з гэтага не вырасце»...

Эміграцыя, сапраўды, можа даць нам нейкі духоўны імпульс, падтрымаць матэрыяльна, але асноўны адраджэнскі клопат — на плячах тых, хто тут нарадзіўся і жыве, жывіцца сокамі, мовай гэтай зямлі.

*— Барыс Іванавіч, Вас ведаюць як заўзятага кніжніка, Ваш беларускі кнігазбор сёння ці не найбагацейшая хатняя бібліятэка. А з чаго ўсё пачыналася?*

— Гэта было ў сорак другім, па-мойму, ці сорак трэцім годзе, калі ў нашай школе з выбітымі вокнамі я, яшчэ не ўмеючы чытаць, падабраў першую кніжку: «Тарас на Парнасе». Яна з'ездзіла з намі ў Германію і вярнулася... Другой кніжкай быў раман майго земляка з Глінішчаў Івана Мележа «Мінскі напрамак». Ужо студэнтам універсітэта я рэгулярна пачаў наведваць букіністычныя кнігарні. Мяне вельмі вабіла старая кніжка. Яе аўтары часта давалі сваю, іншую ацэнку многім з'явам — і гэтая трактоўка адрознівалася ад той, якой нас вучылі. З-за гэтага ўплыву «іншай літаратуры» я меў пэўныя цяжкасці. А калі аднойчы знайшлі ў мяне пад падушкай «Біблію» і высветлілі, што ў Ленінскай бібліятэцы я чытаю Ніцшэ, Шапенгаўэра, Гамсуна, то і зусім стала невыносна. Выплыла і тое, што, паступаючы вучыцца, я ўтаіў свой грэх — знаходжанне ў Нямеччыне. Добра, што былі паслясталінскія ўжо часы і за мяне, як маладога літаратара, заступіўся Саюз пісьменнікаў.

Пазней, калі мне давялося шмат ездзіць, я адусюль прывозіў чамаданы набытых кніг. Так, неяк пашчасціла купіць у Маскве шасцітомнік нерэабілітаванага яшчэ Буніна — тады толькі адкрыў для сябе гэты талент. А ўвогуле найбольш цікавіўся беларускім: таго ж Алеся Гаруна набыў і захоўваў употайкі, за гэта тады восем год давалі...

*— Я хачу адкрыцца Вам, што не зусім употайкі. Калі мы вучыліся на журфаку разам з Вашай дачкой Галяй, яна прынесла мне перапісаны ад рукі цудоўны верш Гаруна «У прыпар». Разумею, гэта быў вельмі даверлівы крок. Увогуле ж, Ваша бібліятэка паслужыла ўсім нам: з Вашых экземпляраў факсімільна перавыдадзены і слоўнік Насовіча, і «Матчын дар» Алеся Гаруна. Што яшчэ, па Вашаму меркаванню, варта перавыдаць?*

— У бліжэйшы час з маёй бібліятэкі выйдзе яшчэ некалькі факсіміле кніг. У «Мастацкай літаратуры» — «Вязанка» Янкі Лучыны, «Пад сінім небам» Наталлі Арсенневай, «Спадчына» Янкі Купалы. Энцыклапедыя перавыдае том «Живописной России», прысвечаны Беларусі. Па лініі ТБМ выйшаў зборнічак пад рэдакцыяй Вацлава Ластоўскага «Што трэба ведаць кожнаму беларусу», рыхтуецца «Руска-беларускі слоўнік» братоў Гарэцкіх. У бліжэйшы час «Народная асвета» выдае «Беларуска-рускі слоўнік» С. Некрашэвіча і М. Байкова. Словам, я не адмаўляю ні аднаму выдавецтву, якія да мяне звяртаюцца. Хаця мае экземпляры псуюцца ў рабоце, разнімаюцца на лісты — затое з'яўляецца яшчэ тысяча-другая паасобнікаў, так неабходных людзям.

*— Чаму, на Вашу думку, неабходна перавыданне слоўнікаў пачатку стагоддзя?*

— У пачатку нашага стагоддзя літаратурная мова толькі выпрацоўвалася. У ёй тады існавала шмат таго, што потым было адкінута, але адкінута, у сілу розных прычын, дарэмна. Сёння мы можам многае вярнуць, скарыстаць — ёсць магчымасць аднавіць нашу мову ў яе натуральным развіцці.

Скажам, я спецыяльна цікавіўся, як стваралася сучасная літаратурная мова ў Ізраілі. З пісьмовых крыніц у іх была толькі Біблія. Яны стварылі цэлы інстытут, які распісаў з яе кожнае слова...

Наша ж мова яшчэ жывая. Яна можа набыць поўнае дыханне, вярнуць страчанае, што зафіксавана ў тых жа слоўніках 20—30-х гадоў.

*— Вы аптыміст...*

— Так, аптыміст. Я ніколі не траціў веры ў перамогу дабра над злом, у перамогу беларускай справы, беларускага слова. І веру ў той час, калі беларуская кніга будзе ў кожнай хаце. яе будуць чытаць і школьнік, і дарослы... І, вядома ж, размаўляць на роднай мове ўсюды— і дома, і на працы. Але дзеля гэтага трэба кожнаму з нас, свядомых беларусаў, вельмі шмат руліцца.

**Гутарыла Алена ЦІХАНОВІЧ.**

# РОЗГАЛАС

## НАВОШТА КАМЕРСАНТАМ ДЗІЦЯЧЫ САД?

Гэтая гісторыя ўскалыхнула горад Кобрын. «Ай! — лямантуюць адны. — Падрыў нашых устояў...» «Малайцы, хлопцы, правільна робяць», — гавораць другія. «Пажывём — пабачым, што атрымаецца», — паціскаюць плячамі трэція. А здарылася вось што: ПМК-44 прадала свой... дзіцячы сад.

— Пайсці на такі крок нас вымусілі абставіны, — расказвае начальнік калоны Уладзімір Кулік.— Ва ўмовах пераходу да рынachных адносін калектыў трапіў у надзвычайную фінансавую сітуацыю: людзям няма чым плаціць зарплату. Мы лічым кожную капейку, шукаем любыя магчымасці для скарачэння затрат. Дзіцячы сад вісеў на нашым бюджэце цяжкім грузам. Толькі ў мінулым годзе на забеспячэнне яго жыццядзейнасці давялося выдаткаваць каля 600 тысяч рублёў. А між тым, у гэтай дашкольнай установе, якая знаходзіцца на нашым балансе, каля 70 працэнтаў «чужых» дзяцей — іх бацькі працуюць у іншых арганізацыях горада. Мы неаднаразова звярталіся ў гарвыканком з просьбай перадаць наш дзіцячы сад на баланс гарадскога аддзела народнай адукацыі (згодны былі спачатку перадаць нават яго бясплатна). Аднак гарвыканком так нічога і не вырашыў...

Дзіцячы сад № 17 знаходзіцца на вуліцы Дзяржынскага — фактычна ў цэнтры горада. Пабудаваны ён шэсць гадоў назад — тэрмін, на першы погляд, не вельмі вялікі. Але ўжо сёння будынак патрабуе капітальнага рамонту.

— Нашы супрацоўнікі ўжо трэці месяц не атрымліваюць зарплаты, — дзеліцца сваімі бедамі загадчыца дзіцячага сада Валянціна Чапялевіч. — Дайшло да таго, што ўжо не было чым плаціць за харчаванне дзяцей, і гархарчпрамгандаль адмовіўся пастаўляць прадукты. Мы былі на мяжы закрыцця.

Хутчэй за ўсё садзік сапраўды б закрылі пад прыкрыццём капітальнага рамонту (з-за адсутнасці сродкаў яго, вядома, ніхто б не рабіў). Аднак у лютым да кіраўніцтва ПМК-44 звярнуўся генеральны дырэктар міжрэгіянальнага вытворча-камерцыйнага аб'яднання «Авіпрам» Віктар Грабарук: маўляў, прадайце гэты дзіцячы сад нашай фірме. Нічога «крамольнага» ў гэтай прапанове Уладзімір Кулік не бачыў, наадварот, тут было выйсце са складанага становішча, і 21 лютага г. г. заключыў дагавор з «Авіпрамам» аб куплі-продажы. У адпаведнасці з дагаворам фірма «Авіпрам» купіла дзіцячы сад за 745 тысяч рублёў (астаткавы балансавы кошт) і гарантавала ў далейшым бясплатна ўтрымліваць усіх дзяцей дашкольнага ўзросту работнікаў ПМК-44.

— Кіраўнікі «Авіпрама» запэўнілі, што яны не будуць умешвацца ў выхаваўчы працэс, — гаворыць Валянціна Чапялевіч. — Іх справа — клопат аб матэрыяльным дабрабыце нашай установы. Праўда, яны прапанавалі арганізаваць у адной або некалькіх групах вывучэнне англійскай мовы, для чаго нават паабяцалі запрасіць выкладчыкаў з Англіі.

Ну што ж, калі праблемы вырашаюцца, гэтаму застаецца толькі радавацца. Але навошта «Авіпраму» дзіцячы сад? Матэрыяльных прыбыткаў ад яго чакаць не прыходзіцца — толькі адны расходы. Нават паводле самых грубых падлікаў, толькі сёлета для забеспячэння нармальнай жыццядзейнасці дзіцячага сада неабходна выдаткаваць больш за два мільёны рублёў.

— Наша фірма займаецца не толькі вытворчай і пасрэдніцкай дзейнасцю, — тлумачыць сваю пазіцыю Віктар Грабарук. — Адным з важнейшых напрамкаў лічым для сябе дабрачыннасць. Справы ў нас ідуць добра, мы завязалі кантакты з замежнымі фірмамі, у прыватнасці, з амерыканскімі, італьянскімі, германскімі. Развіццё ж гэтых кантактаў залежыць ад многіх абставін. Адно з важнейшых патрабаванняў, якое прад'яўляюць замежныя фірмы (а яны ў асноўным прадстаўляюць вядомыя ва ўсім свеце хрысціянскія дабрачынныя місіі) да савецкіх партнёраў, — гэта актыўны ўдзел у дабрачыннай дзейнасці. Утрыманне за кошт сваіх прыбыткаў дзіцячага сада будзе нашым моцным козырам, які павысіць наш аўтарытэт на міжнароднай арэне. Тым самым мы хочам даказаць, што сённяшнія савецкія бізнесмены — гэта не толькі рвачы і хапугі, якімі рухае адно жаданне — узбагаціцца. Шкада, што гэтага ніяк не могуць зразумець у гарвыканкоме.

Сапраўды, старшыня Кобрынскага гарвыканкома Мікалай Гардзіевіч катэгарычна супраць здзелкі паміж ПМК-44 і «Авіпрамам»:

— Я не веру ў іх дабрачынныя намеры. Купіўшы па смехатворна нізкаму кошту будынак дзіцячага сада і адпаведна ўчастак зямлі літаральна ў самым цэнтры горада, наваяўленыя камерсанты з «Авіпрама» глядзяць ў будучыню—праз некалькі гадоў затрачаныя імі сотні тысяч рублёў абернуцца сотнямі мільёнаў. Вядома ж, дзіцячы садзік яны доўга ўтрымліваць не будуць — гэта толькі для адводу вачэй, для падману насельніцтва. Хутчэй за ўсё будынак будзе пераабсталяваны пад офіс фірмы — лепшае месца ў Кобрыне для гэтай мэты цяжка знайсці.

Праблема тут сапраўды ёсць. Абяцанні кіраўнікоў «Авіпрама» аб развіцці дзіцячага сада, дабрачыннай дзейнасці могуць застацца толькі абяцаннямі. Ва ўсякім разе ніякіх прававых рэгламентацый па гэтаму пытанню ў беларускім заканадаўстве пакуль няма. Застаецца толькі верыць на слова прадпрымальнікам з «Авіпрама». І ўсё ж гэта, напэўна, лепш, чым проста закрыць дзіцячы сад з-за немагчымасці яго фінансавання і выкінуць дзяцей на вуліцу.

**В. БУРДЫКА.**

## ТАЙМ-АЎТ

### ФЕДЭРАЦЫЯ «ПАМЕРЛА» НЯХАЙ ЖЫВЕ АСАЦЫЯЦЫЯ!

У Маскве адбыўся з'езд шахматыстаў незалежных дзяржаў былога СССР. Ён канстатаваў ліквідацыю Федэрацыі шахмат СССР і абвясціў аб стварэнні Асацыяцыі шахматных федэрацый (АШФ).

АШФ бярэ на сябе абавязацельства захаваць спартыўны каляндар, які дзейнічаў у былыя гады. Кіраваць шахматнымі справамі будзе выканком, у састаў якога павінны ўвайсці прадстаўнікі федэрацый краін былога СССР. За стварэнне АШФ прагаласавалі дэлегаты Арменіі, Азербайджана, Казахстана, Кыргызстана, Туркменіі і Санкт-Пецярбурга. Прадстаўнікі Беларусі, Малдовы, Узбекістана і Латвіі прысутнічалі на з'ездзе ў якасці назіральнікаў і дадуць адказ па пытанню супрацоўніцтва з АШФ у бліжэйшы час.

### ПРЭЗІДЭНТ ПААБЯЦАЎ БЕГЧЫ

Прэзідэнт МАК Хуан Антоніа Самаранч абвясціў, што прабяжыць адзін з этапаў эстафеты алімпійскага агню, які будзе дастаўлены ў Іспанію напярэдадні летняй алімпіяды ў Барселоне. Ён збіраецца стартаваць з групай ветэранаў іспанскага спартыўнага друку. Нагадаем, што Самаранчу 72 гады.

### ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

Рэкардсмен свету Сяргей Бубка пацярпеў паражэнне. На міжнародных спаборніцтвах скакуноў у Грэноблі (Францыя) ён расчараваў шэсць тысяч балельшчыкаў, якія чакалі чарговага рэкорду. З вынікам 570 см прадстаўнік СНД падзяліў 4—5 месца з амерыканцам К. Тарпенінгам. Крыўдна, бо менавіта тут у мінулым годзе Бубка парадаваў балельшчыкаў новым дасягненнем для памяшканняў — 612 см.

Перамогу на гэтых спаборніцтвах атрымалі француз Жан Гальф і масквіч Пётр Бачкароў, якія скокнулі на 584 см.

### ТЭНІС

Наталля Зверава з Мінска і рыжанка Ларыса Саўчанка-Нейланд працягваюць барацьбу на міжнародным турніры ў ЗША з прызавым фондам 2,8 млн. долараў.

У другім крузе Зверава перамагла амерыканку Шон Стэфард — 3:6, 7:5, 6:1, а Саўчанка-Нейланд у стартавым матчы — японку Майю Кідавакі — 6:1, 6:0.

### ВАЛЕЙБОЛ

Спартсменкі екацярынбургскай «Уралачкі» перамаглі каманду «Камунальнік» з Мінска з лікам 3:0 (15:11, 15:10, 15:6) і датэрмінова заваявалі званне чэмпіёнак СНД.

### БАСКЕТБОЛ

Толькі шостае месца занялі спартсменкі мінскага «Гарызонта» ў чэмпіянаце СНД, а рэальна прэтэндавалі на бронзавыя ўзнагароды. Падвялі мінчанак тры пройгрышы на фінішы заключнага тура. Чэмпіёнкамі сталі дынамаўкі Кіева, «серабро» — у каманды «Малдова», а «бронза» — у ЦСКА.

## ГІСТОРЫЯ З РАЙСЕЛЬГАСХІМІЯЙ

Чацвёрты месяц цягнецца канфлікт у Стаўбцоўскай райсельгасхіміі. Рабочыя патрабуюць адстаўкі кіраўніка А. Звярынскага.

З 23 студзеня калектыў, акрамя адной аператыўнай службы, бастуе. Толькі за першы месяц гаспадарка панесла страты ў паўтара мільёна рублёў...

Тым часам начальнік то павышае кваліфікацыю ў Мінску, то хварэе. Рабочыя бастуюць, а прадстаўнікі адміністрацыйнага апарату чакаюць пацяплення — у рэшце рэшт зарплата ім гарантаваная.

Вось і вырашылі працаўнікі некаторых прадпрыемстваў горада падтрымаць рабочых райсельгасхіміі не толькі маральна, але і матэрыяльна. Калектыў дзіцячага сада № 12 перадаў страйкаму 200 рублёў. Рабочыя аўтапарка № 17 сабралі бастуючым 2.600 рублёў.

**БелаПАН.**

## ВЫСТАВЫ

# Тут напаўняецца душа

Людзі ідуць на Рэрыха. Карціны яго выстаўлены зараз у Палацы мастацтваў. Я таксама пайшла. Заходзіла ў залу, ішла глядзець фільмы пра гэтага вялікага мастака, філосафа, падарожніка, зноў вярталася да карцін. Я не ўсё разумела, многае для мяне было вельмі новым, але ў іх была такая сіла прыцяжэння, пераадолець якую было немагчыма. Такія яны велічныя і спакойныя, такія шматгранныя і шматмоўныя, такія чыстыя і прамяністыя... Я імкнулася зразумець, як мастаку ўдалося перадаць гэтую невычэрпную прагу жыцця. Згодна з Ван Ю: «Сэрца павінна быць абсалютна чыстым, без пылу, і пейзаж тады ўзнікне з самых глыбінь яго».

На карцінах адзін пейзаж — горы. Але кожны з іх настолькі своеасаблівы і так насычаны сваім непаўторным светам, што здаецца, ты пераадольваеш вяршыню за вяршыняй, спасцігаючы складаны і мала зразумелы табе свет. Сэрца тваё напаўняецца асаблівым пачуццём радасці і прагі да жыцця. І свет гэты ўяўляецца бясконцым і вечным. Ён быў, ён ёсць, ён будзе заўсёды. І ты адчуваеш сябе абноўленым, табе лёгка, ты стаў чысцейшым. Можа, гэта ўсё не вельмі зразумела для нашага розуму, але сіла прыцяжэння работ Рэрыха такая вялікая, што хочацца глядзець зноў і зноў, удыхаць, убіраць у сябе гэтую чысціню і яркасць фарбаў, гэты азон і бясконцасць прасторы.

І ты нарэшце разумееш, што свет не канчаецца тваім домам, працай, магазінам, свет не мае канца, а жыццё чалавека не мае мяжы. Яно толькі здольнае змяняць стан і пераходзіць з аднаго ў другі, пры гэтым чалавек атрымлівае або ўзнагароду, або пакаранне.

М. Рэрых быў узнагароджаны жыццём. Ён валодаў вялікім дарам — магчымасцю бачыць далей, глыбей, вышэй. Усё яго жыццё, уся творчасць — непадзельныя паняцці — прайшлі пад знакам вечнасці, якая аб'яднала мінулае — сучаснае — будучае. Гэтыя тры паняцці, таксама непадзельныя, яны звязаны паміж сабой так цесна, што не існуюць асобна, хочам мы таго ці не. Асэнсаванне гэтага робіць нас зусім іншымі — здольнымі помніць тое, што было, цаніць тое, што ёсць, і верыць у тое, што будзе. Свет такі вялікі і бясконцы. Толькі мы самі абмяжоўваем яго для сябе. У свеце ўсё аднолькава каштоўнае, але мы ставім гэтыя каштоўнасці ў нейкі іерархічны рад і зводзім адныя ў ніштo, а з іншых робім культ. І часцей за ўсё забываем пра нашу існасць, а помнім толькі пра наша фізічнае існаванне. А як трэба ўмець узняцца над паўсядзённасцю быцця!..

Людзям стала раптам пуста ў гэтым свеце мітусні, пагоні за грашыма і нажывай. Праблемы захліснулі розум, сэрца, жыццё. Хочацца нечага светлага, чыстага, зусім ідэальнага і такога гаючага. Моцнага і стымулюючага. Хочацца чагосьці для душы. А тут ля карцін Мікалая Рэрыха, так прыемна і хораша.

Тут напаўняецца душа!

**Марыя ДАБЖЫНСКАЯ.**

# ФЛАГМАН ПЕДАГОГІКІ НЕ МОЖА НЕ БЫЦЬ УНІВЕРСІТЭТАМ

**На пытанні кар. «Звязды» адказвае рэктар Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя М. Горкага Аляксандр КАРАТКЕВІЧ**

**— Аляксандр Цімафеевіч, ваш інстытут хоча быць універсітэтам. Гэта што, даніна сённяшняй модзе самых розных новаўтварэнняў на пустым месцы?**

— Па-першае, не на пустым. Па-другое, гэтая ідэя насілася ў паветры не адзін год. І трэцяе: няўжо самастойнай дзяржаве не патрэбны свой педагагічны універсітэт? Калі гэта флагман беларускай педагогікі, калі ў нас праходзіць стажыроўку і перападрыхтоўку даволі значная колькасць педагагічных кадраў рэспублікі, то мы проста абавязаны быць універсітэтам.

Цяпер растлумачу, чаму не на пустым месцы ўзнікла гэтая задумка. 70 гадоў назад інстытут уяўляў сабой факультэт грамадскіх навук Белдзяржуніверсітэта. Потым ён стаў педагагічным факультэтам, затым — вышэйшым педагагічным інстытутам. І вось зараз Міністэрства адукацыі павінна вырашыць, звацца нам універсітэтам, ці не. Вядома, што ўсе папярэднія пераўтварэнні былі звязаны з павышэннем ролі і значнасці адукацыі менавіта нашай навучальнай установы. Цяпер яна ўяўляе сабой сапраўдны педагагічны суперкомплекс, у састаў якога ўваходзяць гімназіі, педвучылішчы, школы-інтэрнаты, агульнаадукацыйныя школы, педагагічныя класы і г. д. Па сутнасці, інстытут ужо цяпер працуе як адзіны вучэбна - навукова - педагагічны нацыянальны універсітэт на аснове аўтаноміі і самакіравання. Аднак у межах структуры педагагічнага інстытута далейшае інтэнсіўнае выкарыстанне гэтага творчага патэнцыялу, як і развіццё самога інстытута, проста немагчыма.

**— Мусіць, вы ў сваім імкненні арыентуецеся на педагагічныя універсітэты ў краінах СНД і за мяжой?**

— Так. Вопыт буйных педагагічных універсітэтаў Расіі, якія былі створаны на месцы педагагічных інстытутаў, сведчыць, што такое пераўтварэнне вядзе да актывізацыі вучэбнай, навуковай, метадычнай дзейнасці. Вядома, і праца многіх замежных педуніверсітэтаў падштурхоўвае нас да такога кроку. Сама назва — універсітэт — менавіта для замежных калег з'яўляецца добрай візітнай карткай.

**— Беларускі педагагічны універсітэт. Гэта, напэўна, і развітая нацыянальная педагагічная школа, і пільная ўвага да роднай мовы?**

— Мы першымі сярод усіх вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі ўвялі абавязковы ўступны экзамен па беларускай мове і літаратуры. Цяпер гэта шырока практыкуецца і ў іншых ВНУ.

Далей. На ўсіх факультэтах інстытута выкладаецца беларуская мова. Поўнасцю на яе перайшлі дашкольны факультэт, факультэт методыкі непаўналетніх і, уявіце сабе, фізічны факультэт. Ужо з 1 верасня мінулага года ў нас пачаў працаваць факультэт беларускай філалогіі і культуры. Створаны аўтарскія калектывы для напісання падручнікаў для ВНУ і школ на беларускай мове. Праз 3—5 гадоў наш інстытут поўнасцю пяройдзе на родную мову.

Пераўтварэнне ва універсітэт дазволіла б нам з удзелам нашых жа выпускнікоў — вядомых дзеячаў мастацтва, літаратуры і г. д. стварыць у нас сапраўдны цэнтр нацыянальнай культуры. Нам патрэбна большая самастойнасць у працы, больш навуковых распрацовак і арыентацыя ўсіх студэнтаў апошніх курсаў на напісанне дыпломных работ. Пакуль жа ў нас іх піша толькі нязначная колькасць студэнтаў. Ва універсітэце можна было б і неяк больш акрэслена раздзяліць нашу адукацыю на два этапы. Першы — 3 гады — і вы магістр, г. зн. настаўнік. Другі — 5 гадоў — і гэта ўжо самыя здольныя маюць магчымасць атрымаць званне бакалаўра, выпускніка больш арыентаванага на навуковую педагагічную працу.

Некалькі нашых лабараторый хоць зараз можна пераўтвараць у інстытуты. Напрыклад, інстытут школьнай псіхалогіі. Адзіныя ў рэспубліцы і такія факультэты, як музычна-педагагічны ці дэфекталагічны, які рыхтуе лагапедаў і педагогаў для падлеткаў-алігафрэнаў. Карацей кажучы, мы ўжо не можам існаваць ва ўласных інстытуцкіх рамках.

**— А ці не азначае гэта, што вы не ўмесціцеся і ў цяперашніх грашовых рамках, і ў сваім новым корпусе?**

— Не, так пытанне ў сувязі з нашай «універсіялізацыяй» мы ставіць не збіраемся. Хоць той матэрыяльнай базы, якая ў нас ёсць, канешне, недастаткова. Больш грошай нам патрэбна на развіццё нацыянальнай педагагічнай навукі. Думаю, што тут недарэчна эканоміць.

У нас ёсць, напрыклад, сапраўды унікальная аграбіябаза ў Заслаўі. Нельга дапусціць, каб яна не атрымала далейшага развіцця. Рэспубліку накорміць не толькі фермер, але і вучоны педагог сельскагаспадарчай навукі.

**— На сустрэчы з прадстаўнікамі прэсы, радыё і тэлебачання намеснік прэм'ера М. Дзямчук шмат гаварыў аб платнай адукацыі. Як ваш пед-інстытут ставіцца да гэтага?**

— Пакуль у нас можа вучыцца кожны, хто паспяхова здасць уступныя экзамены. Але, вядома, ёсць заяўкі прадпрыемстваў, калгасаў, саўгасаў, якія хочуць бачыць у сябе настаўнікаў у бліжэйшай будучыні і гатовы плаціць за гэта грошы. З 16 тысяч рублёў за поўны цыкл навучання ў інстытуце гэтая лічба, па маіх меркаваннях, падскочыць да 40—50. У медінстытуце для «камерцыйных» студэнтаў ужо праводзіцца пераразлік платы за навучанне. Мы і ў далейшым будзем супрацоўнічаць у гэтым плане. Іншая справа, што працай настаўніка мільёны не заробіш. Гэта не вельмі камерцыйная прафесія. І тут мы больш спадзяёмся на дзяржаву. Камерцыйных жа грошай за ўвесь мінулы год мы зарабілі недзе каля паўмільёна рублёў.

Што датычыцца іншаземцаў і валютнай платы за іх навучанне, то цікавыя прапановы ўжо ёсць з Амерыкі, Германіі, Афганістана, іншых краін, хоць на даны момант ніводнага інвалютнага рубля на інстытуцкім рахунку няма.

**— Беларускі педагагічны універсітэт імя Горкага. Здаецца не надта хораша гучыць?**

— На вучоным савеце інстытута ўжо выносілася пытанне аб перайменаванні. І гэтая «горкаўская» прыстаўка аўтаматычна адпадзе з нашым пераўтварэннем ва універсітэт, якое, на нашу думку, неўзабаве ўсё ж адбудзецца. Чыё імя будзе насіць універсітэт — вырашаць будзе не толькі педагагічны калектыў, але і нашы навучэнцы. На мой погляд, гэта павінна быць імя буйнога нацыянальнага дзеяча.

**Гутарку правёў Аляксандр КОКТЫШ.**

## ● РАДЫЁПЕРАХВАТ

### РАДЫЁ «СВАБОДА»

*** Гасцініца «Масква» за ўсю сваю гісторыю яшчэ не бачыла такой колькасці журналістаў. Больш за 500 прагных да сенсацыі рэпарцёраў з 8 раніцы чакалі гарачых падзей. Нарэшце каля 300 дэпутатаў СССР і кавалькада машын рэпарцёраў накіраваліся ў Падольск. Арганізатары з'езда так удала блыталі сляды, што збілі з панталыку не адзін дзесятак газетчыкаў. Адны накіраваліся на засакрэчаную спортбазу, іншыя яшчэ некуды, а некаторыя, наогул, заблудзілі. Дэпутатаў у пасёлку Воранава не чакалі, электрычнасць у клубе была адключана. Але гэта не збянтэжыла барацьбітоў за вялікую справу. Выкарысталі ліхтары, свечкі, сафіты тэлевізіёншчыкаў.**

* Заходнія сродкі інфармацыі шмат месца адводзяць мітынгу на Манежнай плошчы. Адзначаецца, што ў паветры пахла трывогай. Усе камерцыйныя кіёскі і магазіны былі зачынены, на рынках было мала прадаўцоў. Дружыннікі, якія ахоўвалі мітынг, паказалі свае здольнасці і пусцілі ў ход кулакі. Яны збілі групу прыхільнікаў Ельцына, якія прыйшлі са сцягам РСФСР, перакрыжаваным свастыкай. Хлопцы ў ваеннай форме з чырвонымі павязкамі адчувалі сябе вельмі ўпэўнена. Прамоўцы называлі мэра Масквы Папова, не інакш, як «попа».

### «НЯМЕЦКАЯ ХВАЛЯ»

*** У выніку тэрарыстычнага акта ў Буэнас-Айрэсе амаль поўнасцю разбураны 5-павярховы будынак пасольства Ізраіля. 6 чалавек загінулі, 70 паранены, сярод іх — дзеці, якія знаходзіліся ў момант выбуху ў школе насупраць пасольства. Пашкоджаны таксама суседнія будынкі.**

* Каля 350 афіцэраў ААН трапілі ў Харватыі пад моцны артылерыйскі абстрэл, калі яны накіроўваліся на месца свайго размяшчэння.

*** Вядомы заходнегерманскі дзеяч Фогель пасля свайго 3-тыднёвага візіту ў СНД сітуацыю там ахарактарызаваў як драматычную. Ён падкрэсліў неабходнасць узмацнення дапамогі былым савецкім рэспублікам, бо там вельмі вялікая рызыка нацыянальных і сацыяльных канфліктаў. Фогель выступіў за накіраванне спецыялістаў у краіны СНД, а экалагічную сітуацыю ў многіх яе раёнах назваў катастрафічнай.**

* Паводле слоў прэзідэнта Чылі, справа Хонекера хутка будзе ўрэгулявана. Але пакуль перагаворы з Расіяй на гэтую тэму не далі канкрэтных вынікаў.

*** Прэзідэнт Б. Ельцын дзейнічае па прыкладу іншых кіраўнікоў дзяржаў: чым больш яны адчуваюць сябе ў небяспецы, тым больш паўнамоцтваў хочуць засярoдзіць у сваіх руках. Таму ён назначыў сябе міністрам абароны Расіі. Такім шляхам ішоў і М. Гарбачоў, але ў рэшце рэшт у яго засталіся толькі пасады і паўнамоцтвы, а не ўлада. Заходнія назіральнікі адзначаюць, што для свайго ваеннага «сюрпрызу» Расія выбрала не самы лепшы момант: напярэдадні сустрэчы ў Кіеве. У суседзяў Расіі гэтае рашэнне Ельцына выклікае недавер і заклапочанасць.**

### «ГОЛАС АМЕРЫКІ»

* Кватэрная плата ў амерыканцаў, якія не маюць уласнага жылля, адымае значную частку заробку. Размер платы за арэнду залежыць ад розных фактараў. Кватэрная плата ў ЗША не рэгулюецца федэральным урадам, а вырашаецца мясцовымі ўладамі. Абмежаванне росту кватплаты прыводзіць да недахвату жылля, бо інвестары страчваюць цікавасць да будаўніцтва дамоў, а іх гаспадары не ўкладваюць сродкі ў падтрыманне жылля на высокім узроўні. З іншага боку, людзі з абмежаванымі даходамі не могуць здымаць патрэбнае жыллё.

*** Узброены нажом палесцінец забіў двух і параніў дзевятнаццаць ізраільцян, пасля чаго быў застрэлены ізраільскім паліцэйскім. Матывы злачынства невядомыя. У забойцы знайшлі брашуру, выдадзеную фундаменталісцкай ісламскай групоўкай.**

* Пасол Мазамбіка ў Замбіі быў знойдзены забітым у сваёй рэзідэнцыі ў Лусацы. Яго задушылі, а дом абшукалі. Забойцы ўгналі машыну пасла.

*** Аналітыкі ЗША адзначаюць утварэнне ў адносінах з СНД парадаксальнай сітуацыі. У свой час Амерыка траціла трыльёны долараў на абарону супраць СССР, а зараз шкадуе некалькі мільярдаў на падтрымку рэформ у СНД, каб там следам за крахам камунізму не наступіла новая форма дыктатуры, не разгарэлася грамадзянская вайна. Адзначаецца, што на гэтыя мэты можна б было перакінуць сродкі з бюджэту міністэрства абароны.**

● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ

# ЯМШЧЫК, НЕ ГАНІ РЫСАКОЎ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

публіцы Беларусь, акрамя зямлі і жылля»(?).

Далей. Нягледзячы на меркаванні заходніх экспертаў, многіх нашых эканамістаў, распрацоўшчыкі аддаюць прыярытэты, прадастаўляюць ільготы працоўным калектывам. Увогуле, асобныя палажэнні, звязаныя з прывілеяваным становішчам калектываў, як, напрыклад, галасаванне і неабходнасць дзвюх трацей галасоў на прыватызацыю, заключэнне калектыўных дагавораў, — усё гэта стане сур'ёзным тормазам на шляху прыватызацыі. Карацей, тым, хто заклікае не спяшацца, відаць, хваляваца няма з-за чаго.

Хто суб'екты прыватызацыі? У праекце вызначана, што не толькі грамадзяне Беларусі. Хоць, зрэшты, ёсць і іншыя меркаванні, не ўсё тут адназначна.

А яшчэ былі розныя меркаванні наконт таго, ці трэба аддаваць бязвыплатна. А можа толькі на аўкцыёнах? І аднадушная думка — пра максімальную галоснасць. Вось на гэтым варта спыніцца асобна. Напэўна, калі ўжо ніхто не пытаецца ў народа, жыць яму пры сацыялізме ці пры капіталізме, то варта было б, каб усё, што звязана з прыватызацыяй, атрымлівала максімальнае адлюстраванне ў друку. Магчыма, і той жа законапраект (дарэчы, яго прынялі ў першым чытанні, можа дачакаемся і другога...) трэба было б надрукаваць.

А ў заключэнне нагадаю, што пазаўчора, на вячэрнім пасяджэнні зацверджаны ўзровень мінімальнай заработнай платы — 550 рублёў. Вядома, з такім узроўнем не вельмі разгонішся на тую ж прыватызацыю. Але трэба поўнасцю ўсвядоміць і іншае: мы селі на мель. Будзем зацягваць з карэнным пытаннем рэфармавання эканомікі — стане яшчэ горш.

**І. БАРАНОЎСКІ, аглядальнік «Звязды».**

# ЗАМЕЖЖА

### НЕВЯДОМЫЯ РЭКАРДСМЕНЫ

**Амаль усё сваё жыццё збірае калекцыю птушыных яек сямідзесяцігадовы жыхар Каліфорніі Э. Гарысан. На гэтым фотаздымку самае вялікае і самае маленькае яйкі птушак нашай планеты. Большае належыць страусу, меншае — афрыканскаму каральку.**

**Шасціног-ціхаходка з'яўляецца адным з самых маленькіх насякомых — яго памеры менш за міліметр. Згадзіцеся, што пры шматразовым павелічэнні ён выглядае даволі грозным. Гэты малютка валодае унікальнай здольнасцю: пры неспрыяльных умовах ён упадае ў анабіёз і можа праспаць да ста гадоў. У гэтым стане ён вытрымлівае награванне і ахаладжэнне ў дозах, смяротных для іншых жывых істот.**

### ВЫСОКАРАЗВІТАЯ ЦЫВІЛІЗАЦЫЯ МОЧЫКА

**Тры гады назад у Перу было знойдзена старажытнае захаванне, якое адносіцца да культуры мочыка, — даінкскай цывілізацыі індзейцаў, што жылі на паўночным узбярэжжы гэтай краіны.**

**Гэтая цывілізацыя існавала прыкладна ў адзін час з вядомай культурай майя. Зусім таямнічым чынам прыблізна ў сярэдзіне VIII стагоддзя гэты народ знік, схаваўшы з сабой амаль усе свае веды.**

**У адрозненне ад сваіх сучаснікаў мочыка (і гэта застаецца галоўнай загадкай для вучоных) не мелі ні сваёй пісьменнасці, ні календара, але ўсё роўна гэта была высокаразвітая цывілізацыя.**

**Мочыка належыць выключна вытанчаныя ўпрыгажэнні з каштоўных камянёў і металаў, а таксама скульптурныя адлюстраванні, роспіс якіх некаторыя вучоныя параўноўваюць з роспісам старажытнагрэчаскіх ваз.**

**НА ЗДЫМКУ: гэтыя прадметы зроблены з каштоўных камянёў і металу выдатнейшымі майстрамі мочыка.**

### ЖЫЦЦЁ ЗА ПЕРАМОГУ

БРАЗІЛІЯ. Трагічна закончыўся своеасаблівы чэмпіянат па ўжыванню кашасы (самагону з цукровага трыснягу) сярод энтузіястаў моцных напіткаў у бразільскім гарадку Ітабуна (штат Баія). Як расказалі «балельшчыкі», доўгі час у спаборніцтве лідзіраваў адзін сельгасрабочы Жазэ Рыкарду дзі Алмейда. Аднак пасля праходжання «адзнакі» ў адзін літр фаварыт страціў прытомнасць і ў стане комы быў дастаўлены ў мясцовую бальніцу. Урачы не змаглі выратаваць яму жыццё.

### СЫН ПРЭЗІДЭНТА ЮАР СКАСОЎВАЕ ЗАРУЧЫНЫ СА СВАЁЙ НЯВЕСТАЙ

Уілем дэ Клерк, малодшы сын прэзідэнта ЮАР, адмовіўся ад сваіх шлюбных абавязкаў ў адносінах да Эрыке Адамс, агульнапрызнанай прыгажуні, якая, аднак, не належыць да белай расы.

Эрыке і Уілему па дваццаць пяць гадоў, яны вучыліся разам з 1989 года ў Лондане, там і пазнаёміліся. У мінулым годзе яны аб'явілі аб сваіх заручынах, што выклікала выбух абурэння сярод прыхільнікаў апартэіду ў ЮАР. Паведамляючы аб гэтым, газета прыводзіць думкі некаторых сяброў Эрыкі, якія сцвярджаюць, што скасаванне адбылося з-за рашучага супрацьдзеяння з боку бацькі Уілема і жонкі прэзідэнта Марык дэ Клерк.

### РАДАСНАЯ ПАДЗЕЯ Ў ЖЫЦЦІ СЛЯПЫХ

**У германскім горадзе Растоку тыражом у 50 экземпляраў выпушчана унікальная кніга-экскурс у свет мастацтва. На яе 20 «старонках» з гліны, свінцу і медзі (у цэлым яны важаць усяго паўкілаграма) змешчаны набраныя спецыяльным шрыфтам вершы, а таксама мастацкія мініяцюры, якія можна абмацаць рукамі.**

### ТЭРМІН ГОДНАСЦІ ДЛЯ... ЦЫГАРЭТ

БРАЗІЛІЯ. Бразілія хутка стане першай у свеце краінай, якая будзе выпускаць цыгарэты з адзнакай... тэрміну годнасці.

Не, бразільскія цыгарэты не схільныя пратухаць, калі, скажам, некалькі дзён праляжаць у доме пры пакаёвай тэмпературы. Гэта датычыцца як туземных марак, так і ліцэнзійных, такіх, як «Мальбара». Справа тут у іншым: паводле перакапання А. Эрмана, кантроль спажыўцоў за якасцю тавараў павінен быць надзвычай жорсткім, што называецца, без дурняў. І любы бразілец пры выбары тавару павінен мець аб ім максімальна поўнае ўяўленне, пачынаючы ад саставу інгрэдыентаў і канчаючы тэрмінам годнасці.

*Па матэрыялах інфармацыйных агенцтваў і друку.*

